*ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА* *ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.*

# ПАГОНЯ

*№ 16 (115)* *28 красавіка – 4 траўня 1995 г.* *Кошт 300 рублёў*

*ЗЭЛЬВА ПАЖЫВЕ ЯШЧЭ І Ў РЭЗЭРВАЦЫІ* - ст. 3.

*БУДЫНАК ЗАСТАЕЦЦА Ў РУКАХ БЕЛАРУСАЎ* - ст. 4.

*ГАРАДЗЕНЦЫ ЗА ПРЫВАТЫЗАЦЫЮ* - ст 8.

*ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск – Варшава – Масква - Санкт-Пецярбург.*

## ПРЭЗІДЭНТ ЛУКАШЭНКА ХОЧА АДМЯНІЦЬ БЕЛАРУСКІ ГЕРБ, СЬЦЯГ, ПАРЛАМАНТ І МОВУ. НА КОЖНАЕ ЛУКАВАЕ ПЫТАНЬНЕ РЭФЕРЭНДУМА АДКАЗ АДЗІНЫ - "СУПРАЦЬ!"

Кожнае з гэтых пытаньняў мае падвойнае дно. Усе іх можна зьвесьці да аднаго: "Ці жадаеце Вы, каб я быў царом Паўночна-заходняга краю?" Ці жадаем мы, каб чалавек без цара ў галаве стаў царом? Ці жадаем мы жыць у Паўночна-Заходнім краі? Для людзей, якія думаюць галавой, падобная рыторыка непатрэбная.

Хопіць зьдзекаў над уласным народам! Хопіць эксперыментаў у вобласьці шоў-бізьнесу! Беларусы заўсёды былі за кагосьці. Прысьпеў час быць самім за сябе. На кожнае лукавае пытаньне можа быць толькі адзіны разумны адказ - "супраць".




## АБЯЦАЎ ШКОЛУ, А АДАРЫЎ РЭФЕРЭНДУМАМ

На мітынг, арганізваны Саюзам палякаў Беларусі ў знак пратэсту супраць адмовы ўрада Беларусі ў пабудове польскай школы ў Горадні, які адбыўся на пляцы Леніна 19 красавіка, прыйшло ня мала людзей. Адкрыў яго віцэ-старшыня Саюзу палякаў спадар Тадэвуш Малевіч. Затым да мікрафона падыйшоў старшыня Саюзу Тадэвуш Гавін. У прыватнасьці спадар Гавін сказаў, што спрыяць пабудове ў Горадні школы, выдзяліць на гэтую будоўлю грошы абяцалі ў свой час і прэм'ер В.Ф.Кебіч, і цяперашні прэзідэнт А.Р.Лукашэнка. Абяцалі, гарантавалі, а справа далей выдзяленьня будпляцоўкі дагэтуль не скранулася. Ад бацькоўскага камітэту польскай школы ў Горадні выступілі спадары Сайкоўскі і Сінькевіч. Думаецца, што тая туга, той боль, які прагучаў у прамовах гэтых людзей, сьведчыць пра тое, што праблема з польскай асьветай на Гарадзеншчыне стала надзённай.

У падтрымку справядлівых захадаў палякаў Горадні выступіў старшыня Гарадзенскай рады Беларускага Народнага Фронту Кастусь Жынь. Дэпутат Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь Мікола Маркевіч у сваім выступе сказаў: "Мы суседзі, мы браты, мы тутэйшыя. Сёньня задушаць беларусаў, потым возьмуцца за палякаў і наадварот. Мы павінны аб'яднацца, каб даць адпор спробам паліцэйшчыны". Спадар Маркевіч заклікаў прысутных прыйсьці на выбары, каб прагаласаваць за кандыдатаў Народнага Фронту і сказаць рашучае "не" супрацьзаконнаму рэферэндуму. Была зачытана рэзалюцыя ўдзельнікаў мітынгу. У ліку патрабаваньняў да прэзідэнта Лукашэнкі ёсьць і такі: частку тых мільярдаў, што плануецца затраціць на рэферэндум, перадаць на пабудову польскай школы ў Горадні.

**Г.АСТРОЎСКІ.**

**P.S.: Калі артыкул быў падрыхтаваны да друку, да нашага рэдактара Міколы Маркевіча патэлефанавалі з абласной пракуратуры і настойліва прапанавалі сустрэцца з пракурорам вобласьці спадаром Цярэшчанкам з нагоды выступу на мітынгу 19 красавіка. Прычына - папярэдзіць Маркевіча за ягоную прамову на мітынгу.**

**Сустрэча павінна адбыцца пасьля першатравеньскіх сьвятаў і абяцае быць цікавай, бо дэпутат Маркевіч таксама мае да пракурора некалькі пытаньняў. І найперш: як хутка пракуратура стане заслонай на шляху беззаконьня.**

Падрабязнасьці гэтага спатканьня падамо ў наступным нумары.

## СПАЧАТКУ – ВОБЫСК, ПОТЫМ ЦЭНЗУРА?

Сьледчым па асоба важных справах пры Генеральнай пракуратуры Рэспублікі Беларусь спадаром В.Камароўскім зроблены вобыск у Гарадзенскай абласной узбуйненай друкарні. Спадар Камароўскі шукаў арыгінал-макеты газеты "Пагоня", дзе былі надрукаваны вершы "З чарнавых накідаў Вядзьмака Лысагорскага". Высілкі сьледчага аказаліся дарэмнымі. Ён не знайшоў арыгінал-макетаў патрэбнага нумара. Аднак, як стала вядома рэдакцыі, пасьля візіту сьледчага зьявіўся загад рабіць запасныя арыгінал-макет "Пагоні".

У тэлефоннай размове з супрацоўнікам рэдакцыі дырэктарка друкарні - спадарыня Міронава - пацьвердзіла, што арыгінал-макет "Пагоні" сапраўды робіцца цяпер у двух экзэмплярах. Аднак яна катэгарычна абвергла сувязь паміж вобыскам і неабходнасьцю выдрукоўкі дадатковага арыгінал-макета.

**М.М.**

## ДЭПУТАТЫ АПАЗІЦЫІ ЗЬВЯРНУЛІСЯ ДА ПРЭЗІДЭНТА А.ЛУКАШЭНКІ

Адбылася прэс-канферэнцыя сяброў апазіцыі Беларускага Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце. Лідэр Апазіцыі Зянон Пазьняк заявіў, што БНФ зьвярнуўся да прэзідэнта А.Р.Лукашэнка з просьбай прадэманстраваць па нацыянальным тэлебачаньню плёнку з запісам адбыўшыхся ў ноч з 11 на 12 красавіка падзей у беларускім парламанце, калі была пабіта група дэпутатаў. У адмоўным выпадку дэпутаты абяцалі зьвярнуцца ў Міжпарламенцкі Саюз.

## ПОЛЬСКІХ ПАРЛАМАНТАРЫЯЎ ЦІКАВІЦЬ НАЧНОЕ ЗЬБІЕНЬНЕ ДЭПУТАТАЎ

У Менску знаходзіліся прадстаўнікі польскага клуба парламантарыяў "Вунія свабоды" Богдан Барусевіч, Войцех Адкушэўскі, Яраслаў Чэх. Парламантарыі прыехалі па запрашэньню Беларускага Народнага Фронту, з дапамогай якога азнаёміліся з сітуацыяй на Беларусі і высьвятлілі падрабязкі начнога зьбіцьця беларускіх калег.

## ІВАН КАРАТЧЭНЯ ТРОШКІ «РАЎНЕЙШЫ» ЗА ІНШЫХ КАНДЫДАТАЎ

Райцэнтр Любань наведаў выканаўчы сакратар СНД Іван Каратчэня, які балатуецца па мясцовай выбарчай акрузе. Спадара Каратчэню суправаджаў міністр абароны рэспублікі Анатоль Кастэнка. Падчас паездкі "госьці" наведалі буйны вайсковы гарнізон у пасёлку Уручча, дзе была арганізавана сустрэча з вайскоўцамі і іх сем'ямі. Каратчэня ў сваім выступе сьцьвярджаў, што будзе выступаць у абарону войска і перашкаджаць яго развалу. Напярэдадні І.Каратчэня заявіў, што рашучую ролю ў прыняцьці рашэньня аб удзеле ў выбарах адыграў Сяргей Антончык. Па словах спадара Кааратчэні, Сяргей Антончык рэкамендаваў яму зьняць сваю кандыдатуру. "У іншым выпадку, - згадаў Каратчэня, - Антончык абяцаў перадаць кандыдату ад БНФ кампраметуючыя матэрыялы на выканаўчага сакратара СНД".

На просьбу карэспандэнта зрабіць камянтар, Сяргей Антончык у прыватнасьці сказаў: "Я проста пажартаваў і не зьбіраўся шантажаваць спадара Каратчэню. А што тычыцца матэрыялаў на Каратчэню, дык яны на самой справе ёсьць і ўжо даўно абнародаваны ў прэсе."

**СІМ**

## ФОНД ІМЯ Л.САПЕГІ ВУЧЫЦЬ

Два семінары па праблемах мясцовага самакіраваньня і рэформы мясцовага самакіраваньня на Беларусі па жаданьню кандыдатаў ад дэмакратычных партыяў, рухаў і арганізацый на выбарах у Вярхоўны і мясцовыя Саветы арганізавала ў Горадні мясцовая філія фонду імя Л.Сапегі. Семінары праводзяцца дабрачынна і будуць доўжыцца больш месяца.

Падчас семінараў па просьбе слухачоў праводзяцца лекцыі на тэму "Арганізацыя і правядзеньне выбарчай кампаніі".

**Г.Д.**

## КАМУ ЗАКОН НЯ ПІСАНЫ?

Неаднаразова "Пагоня" і яе чытачы станавіліся ў абарону выкладчыка Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы Мікалая Аляксандравіча Мельнікава, звольненага з працы адміністрацыяй вучэльні.

Справа зараз знаходзіцца ў Вярхоўным судзе Беларусі. Мікалай Аляксандравіч вылучаны кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета. Аднак гэтыя акалічнасьці не спынілі чыноўнікаў з універсітэту і яны, не чакаючы рашэньня, зноў пацьвердзілі ранейшае звальненьне вучонага.

Зьдзіўляе ігнараваньне Закона, адсутнасьць спагады да ветэрана Вялікай Айчыннай вайны, простай чалавечай міласэрнасьці.

Калі дзяржава ня можа абараніць інтарэсы сваіх законапаслухмяных грамадзян, то хто ж будзе абараняць дзяржаву?

Спадзяемся на справядлівае канчатковае вырашэньне канфлікту, які празьмерна зацягнуўся.

**Кастусь ЖЫНЬ, Валеры ЗАДАЛЯ, Сяргей МАЛЬЧЫК, Мікола МАРКЕВІЧ кандыдаты ў дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад дэмакратычнага блоку г.Горадні.**

## ГЕНЕРАЛЬНАЕ ПАГАДНЕНЬНЕ ПАДПІСАНА, ХОЦЬ СЯБРОЎ НПБ ПАПРАСІЛІ З ЗАЛЫ

Прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір правёў сустрэчу з прадстаўнікамі прафсаюзаў Беларусі ў Доме ўраду, дзе планавалася падпісаньне генеральнага пагадненьня. Як стала вядома, прадстаўнікоў Незалежных прафсаюзаў (НПБ) папрасілі пакінуць залу паседжаньняў. Гэта, на думку лідэра НПБ Генадзя Быкава, зьяўляецца парушэньнем роўнасьці прафсаюзных арганізацый. Нягледзячы на памяркоўнасьць залы генеральнае пагадненьне не было падпісана з-за рознасьці падыходаў да азначаных мэтаў. Выступаючы з прамовай, прэм'ер-міністр заўважыў, што прэзідэнт Беларусі мае намер падпісаць указ аб аднолькавых тарыфахналічэньня заробку работнікам вытворчай сферы.

Са слоў спадара Чыгіра вынікае, што Беларусь за энерганосьбіты ў бліжэйшы час будзе плаціць па міравых цэнах.

## ДЫК КОЛЬКІ Ж КАШТУЕ ЦІЦЯНКОЎ?

Іван Ціцянкоў, упраўляючы справамі прэзідэнта, застаўся незадаволены рашэньнем Менскага нарсуда, хоць суд і прызнаў вінаватым дэпутата Вярхоўнага Савету С.Антончыка ў зьнявазе гонару і сумленьня Івана Ціцянкова і абавязаў парламантарыя выплаціць упраўляючаму справамі 200 мільёнаў рублёў. Спадар Ціцянкоў абскардзіў рашэньне суда ў вышэйстаячай інстанцыі, судзе горада Менска. Ціцянкоў ня згодзен з тым, што суд вызваліў ад адказнасьці газету "Свабода" і "Газету Андрэя Клімава", якія надрукавалі антыкарупцыйны даклад спадара Антончыка. Акрамя таго, "заўхоз" прэзідэнта патрабуе кампенсацыю ў памеры ня меней 5 мільярдаў рублёў.

## У БЕЛАКАМЕННУЮ НА ПАКЛОН

Дэлегацыя беларускай Ліберальна-дэмакратычнай партыі 25 красавіка наведала Маскву ў сувязі з сьвяткаваньнем дня нараджэньня лідэра ЛДПР Уладзіміра Жырыноўскага.

Дэлегацыю беларускіх ліберал-дэмакратаў узначальваў Васіль Крывенка.

## ДЭСТАБІЛІЗАТАР СПАКОЮ

Рада Гомельскай абласной суполкі Беларускага Народнага Фронту прыняла заяву, у якой ідзе сказана, што прэзідэнт рэспублікі сваімі дзеяньнямі дэстабілізуе сітуацыю напярэдадні выбараў да Вярхоўнага Савету, а гэта можа прывесьці да іх зрыву і ўстанаўленьня дыктатуры. У сваёй заяве Рада зьвяртаецца да дэмакраатычных арганізацыяў з заклікам не паддавацца на правакацыі. Рада адправіла таксама тэлеграму М.Грыбу, у якой выказала незадавальненьне дзеяньнямі парламанту.

**СІМ**

# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## ІДУ ДА ВАС З АДКРЫТЫМ СЭРЦАМ

**Тадэвуш Гавін нарадзіўся ў 1951 годзе ў вёсцы Ласосна Гарадзенскага раёна. Паляк. З 1969 па 1991 год служыў афіцэрам сувязі ў Забайкальскай, Ціхаакіянскай і Заходняй пагранічных акругах. Закончыў Вышэйшае вайсковае вучылішча і Вайсковую акадэмію сувязі, падпалкоўнік запасу.**

**З 1988 года займаецца грамадзка-культурнай працай. У 1990 годзе абраны старшынёй Саюза палякаў. Зарэгістраваны кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета РБ па Гарадзенскай сельскай выбарчай акрузе N 127.**



**- Тадэвуш Феліксавіч, па гэтай акрузе Вы балатаваліся на мінулых выбарах у парламант, але...**

- Мінулыя выбары ў Вярхоўны Савет я не прайграў, вынікі галасаваньня былі сфальсіфікаваны. Выбары праводзіліся пад непасрэдным кантролем КПСС-КПБ, а партыйным функцыянерам я быў, як костка ў горле.

І хоць я ня стаў дэпутатам, на працягу ўсяго гэтага часу часта наведваў і наведваю жыхароў навакольных вёсак, цікаўлюся іх жыцьцём і падзяляю іх сёньняшнія клопаты, спадзяваньні на лепшае.

**- Вы зьяўляецеся кіраўніком грамадзкай арганізацыі, якая адстойвае перш за ўсё нацыянальныя інтарэсы палякаў. Хто-кольвек з выбаршчыкаў можа падумаць, што інтарэсы прадстаўнікоў іншых нацыянальнасьцей застануцца па-за Вашай увагай. Тым больш, што чамусьці іншых прадстаўнікоў дэмакратычнай плыні, якія б прэтэндавалі на месца ў парламанце, тут няма. Чым гэта растлумачыць?**

- Тое, што ўплывовыя грамадзкія палітычныя арганізацыі, такія, напрыклад, як Народны Фронт, Сацыял-дэмакратычная Грамада, Партыя народнай згоды і іншыя ня вылучылі па гэтай акрузе сваіх кандыдатаў, сьведчыць аб іх падтрымцы маёй кандыдатуры.

Хачу адзначыць, што наша зямля заўсёды была аднолькава гасьціннай як для палякаў, беларусаў, так і для габрэяў, рускіх, летувісаў, украінцаў і іншых. І я ў аднолькавай ступені буду адстойваць інтарэсы ўсіх тых, хто тут жыве.

Калі гаварыць аб палітычнай пазіцыі, то Саюз палякаў адстойвае суверэнітэт, незалежнасьць беларускай дзяржавы.

**- У апошні час многа гаворыцца аб неабходнасьці зьмены дзяржаўнай сымболікі. Якая ў Вас думка наконт гэтага?**

- Я лічу немэтазгодным вяртацца да былой сымболікі.

Што да беларускай мовы, то яна павінна быць дзяржаўнай. Аднак, трэба стварыць добрыя ўмовы для вывучэньня і ўжываньня іншых моў - польскай, габрэйскай, расейскай, татарскай і іншых. Калі ў Горадні жыве дзесьці 60 тысяч палякаў і няма ніводнай польскай школы, то ў нацыянальнай палітыцы штосьці ёсьць нядобрае.

**- У Вас у акрузе сур'ёзныя саапернікі, напрыклад, прадстаўнікі Міністэрства абароны і Міністэрства ўнутраных спраў. Яны могуць значна зьнізіць Вашы шанцы ў тых участках, дзе будуць галасаваць вайскоўцы і іх сем'і.**

У беларускім войску нямала дэмакратычна настроеных афіцэраў, у ім служаць нашы дзеці. Яны не абыякавыя да лёсу сваёй Бацькаўшчыны, да таго, якім будзе яе і іх заўтрашні дзень. "Націснуць", як раней рабілася, на афіцэраў і салдатаў нельга.

Па-другое. Мае канкурэнты - людзі не свабодныя ў сваіх дзеяньнях. Яны поўнасьцю залежаць ад кіраўніцтва МА і МУС. Таму зразумела, што яны ня будуць адстойваць інтарэсаў ваеннаслужачых, калі гэтыя інтарэсы ўвойдуць у супярэчнасьць з думкай начальства, ад якога залежыць месца службы, кар'ера, заробак, жыльлёвыя ўмовы.

Мая перавага ў тым, што я ні ад каго не залежу, акрамя свайго сумленьня. Таму мне ніхто не перашкодзіць настойліва і паўсядзённа адстойваць інтарэсы і запатрабаваньні вайскоўцаў і іх сем'яў.

А паколькі я ў запасе, то мне вельмі зразумелыя жыцьцёвыя патрабаваньні пеньсіянераў. Я зацікаўлены, каб да гэтых людзей было праяўлена больш увагі.

**- Чаму ў такім маладым узросьце Вы аказаліся ў адстаўцы? У свой час з Далёкага Усходу былі пераведзены на радзіму - у Горадню. А тут служыць ды служыць.**

- Я радаваўся новаму месцу працы - вельмі люблю свой горад. Але мая прыхільнасьць да дэмакратычнага руху, нацыянальнага беларускага і польскага адраджэньня ня вельмі падабалася начальству. І яно зрабіла ўсё, каб справакаваць маё звальненьне са службы.

**- Як сьпецыяліст, што Вы думаеце пра наша беларускае войска.**

- Пачну з тэрміну службы. На маю думку, яго трэба скараціць да 15 месяцаў. Гэтага дастаткова. Толькі трэба больш эфектыўна выкарыстоўваць час, адведзены на баявую падрыхтоўку.

Трэба пераходзіць да прафесійнага войска з магчымасьцю альтэрнатыўнай службы.

**- Вы чалавек гарадзкі, а сярод выбаршчыкаў акругі многа сельскіх жыхароў. Наколькі блізкія для Вас іх інтарэсы, запатрабаваньні?**

- Я ўжо адзначыў, што з часу мінулых выбараў не парываў сувязі з людзьмі, цікавіўся іх справамі і па меры магчымасьці дапамагаў.

Лічу, што новаму Парламанту трэба ў першую чаргу стварыць працаўнікам вёскі належныя ўмовы ў выглядзе датацый, ільгот, рэгуляваньня падаткаў для стымуляваньня вытворчасьці сельгаспрадукцыі і шукаць для яе рынкі збыту.

Па-другое, удасканаленьне арганізацыі сельскагаспадарчай вытворчасьці. Побач з калгасамі,павінны разьвівацца фермерствы, асацыяцыі і кааператывы.

Гаспадаркі і фермеры павінны мець альтэрнатыўныя магчымасьці рэалізацыі сваёй прадукцыі, а не залежаць ад перапрацоўчых прадпрыемтсваў, якія проста рабуюць сёньня сяльчан.

**- Пагадзіцеся, Тадэвуш Феліксавіч, прыгожыя мясьціны на захадзе Гарадзенскага раёна...**

- Тут я нарадзіўся і вырас. Цяпер час заняцца архітэктурна-гістарычнымі помнікамі, Аўгустоўскім каналам, напрыклад. Гэта дасьць шырокія магчымасьці для разьвіцьця міжнароднага турызму.

**- Напрыканцы размовы - сьціслыя тэзісы Вашай выбарчай праграмы.**

- Так далей жыць нельга;

- Беларусь - суверэнная і прававая дзяржава;

- Адраджэньне, разьвіцьцё мовы, культуры і традыцый усіх нацыянальных супольнасьцяў,

- рынкавы накірунак рэформаў эканомікі дзеля дабрабыту людзей і ўмацаваньня дзяржавы.

Іду да людзей з адкрытым сэрцам, з глыбокай верай, што разам мы можам значна палепшыць жыцьцё. Для гэтага ў нас ёсьць галоўнае - адвечная працавітасьць і сумленнасьць, нязломная моц перад любой навалай. Гэта захавала і захавае маю родную зямлю.

**Гутарыў Рышард КАРАЧУН.**

**АД РЭДАКЦЫІ: Партыя Беларускага Народнага Фронту паведамляе, што Сойм БНФ зьняў з рэгістрацыі па Гарадзенскай сельскай акрузе кандыдатуру Уладзіміра Кісялевіча. Заклікаем сяброў і прыхільнікаў Народнага Фронту, усіх выбаршчыкаў акругі N 127 прагаласаваць за адзінага кандыдата ад дэмакратычнага блоку - Тадэвуша Гавіна!**

**Гарадзенскаму гарадзкому выканаўчаму камітэту Савета народных дэпутатаў сяброў гісторыка-культурнага клуба "Паходня"**

## Заява.

З пункту гледжаньня экалогіі г.Горадня не зьяўляецца ідэальным. Прадпрыемтсвы хімічнай, будаўнічай і іншых правысловасьцяў ужо даўно стварылі небясьпечныя для здароўя людзей экалагічныя ўмовы. Да гэтага трэба дадаць кампактнасьць забудоў у горадзе, наяўнасьць вялікай колькасьці прыватнага і дзяржаўнага транспарту. Таму вельмі актуальным стаіць пытаньне аб азеляненьні кожнага раёна, кожнай вуліцы нашага горада. І зусім не зразумела, калі пачынаюць вынішчаць нават тое, што маем.

Доўгі час на вуліцы Фамічова уздоўж Нёмана існаваў фруктовы сад, у якім адпачывалі жыхары горада, хадзілі на прагулкі дзеткі з навакольных дзіцячых садкоў, вывучалі акаляючы сьвет школьнікі СШ N 3. Ды і выкіды з ГВА "Азот", які знаходзіцца якраз насупраць жылых дамоў, у пэўнай ступені натыкаліся на экалагічны бар'ер. Але з чыёсьці злой волі было вырашана менавіта на гэтым месцы пабудаваць Дом ветэрана. Так, такі Дом патрэбны народу, але чаму за кошт інтарэсаў і здароўя тысяч гарадзенцаў? Ці няма ў Горадні дзе будаваць, не зьнішчаючы прыроду? Ужо некалькі год ідзе барацьба паміж ініцыятарамі забудовы і жыхарамі мікрараёна. І вось сёньня, у перыяд уседазволенасьці, вынішчальнікі атрымалі перамогу. Сад пайшоў пад нож. Засталіся лічаныя дрэвы. Ці захаваюцца і яны?

Мы, сябры Гарадзенскага гісторыка-культурнага клуба "Паходня", рашуча пратэстуем супраць такой варварскай палітыкі гарадзкіх улад і патрабуем тэрмінова даць **адказ на наступныя пытаньні:**

1. Чым была выклікана неабходнасьць вынішчэньня саду па вул.Фамічова?

2. Хто даў дазвол на гэтую варварскую справу?

3. Якія меры прымае гарвыканкам па захаваньню экалогіі горада.

## СЕЙМ ЛЕТУВЫ Ў ТРЫВОЗЕ

Сейм Летувіскай Рэспублікі намераны абмеркаваць пытаньне аб парушэньні дэмакратычных нормаў у Беларусі. Прыкладам для гэтага паслужыла нядаўняе зьбіцьцё дэпутатаў апазіцыі ў зале паседжаньняў Вярхоўнага Савета. Як паведамілі ў прэс-службе Сейма, праэкт пастановы ўжо разданы дэпутатам. Таксама ў Сейме зачытаны зварот чатырнаццаці парламантарыяў, у якім выказваліся трывога парушэньнямі дэмакратычных прынцыпаў на Беларусі і недапушчэньне прымяненьня грубай сілы супраць людзей, маючых статус дэпутацкай недатыкальнасьці. Як стала вядома, у красавіку група дэпутатаў сейма перадала ў пасольства Беларусі ў Летуве пратэст на імя прэзідэнта Беларусі, дзе таксама выказвалася недапушчальнасьць зьбіцьця беларускіх калегаў. Як паведаміў адзін з дэпутатаў, яны прапанавалі беларускім дэпутатам зьвярнуцца ў Міжпарламанцкі Саюз, які займаецца абаронай правоў парламантарыяў ва ўсім сьвеце. Дэпутат таксама паведаміў, што парламентарыі занепакоены аднаўленьнем на Беларусі сьвята кастрычніцкай рэвалюцыі і ратыфікацыяй Вярхоўным Саветам Беларусі дамовы з Расеяй аб сумеснай ахове межаў. Летувісы трывожацца, што расейскія памежнікі будуць ахоўваць і беларускія межы з Летувой.

**СІМ**

## «СЬМЯРДЗЮЧЫЯ БАЛЬШАВІКІ» – НЕ АБРАЗА

Справа аб інцыдэньце ў акруговай выбарчай камісіі Лідзкай Чырвонаармейскай выбарчай акрузе N 134 паміж сацыял-дэмакратам Іванам Гросам і групай камуністаў займела працяг.

20 красавіка суддзя Піпко С.М. у народным судзе г.Ліды разгледзеў скаргу першага сакратара гаркама ПКБ Зазнобы на спадара Гроса за абразу гонара і годнасьці. Сутнасьць абразы ў тым, што Грос назваў усіх прысутных у камісіі камуністаў "сьмярдзючымі бальшавікамі".

У ходзе разгляду судьдзя прызнаў правапарушэньне з боку Гроса малазначным і вызваліў яго ад адміністратыўнай адказнасьці, абмежаваўшыся вуснай заўвагай.

Чым кіраваўся суддзя? Магчыма тым, што бальшавізм на Беларусі - сапраўды палітычны труп, які, на жаль, яшчэ доўга будзе сьмярдзець на нашай зямлі.

Дарэчы, у ходзе разгляду справы суддзя неаднаразова падкрэсьліваў, што ніякай палітычнай падкладкі яна ня мае.

**Вінцэнт ДАЎНАРОВІЧ.**

## АБ ПАДЗЕЯХ У БЕЛАРУСІ

У апошнія паўгады для дзейнасьці прэзідэнта і Вярхоўнага Савета Беларусі характэрна цынічнае парушэньне Канстытуцыі і законаў дзяржавы. Спынены рэформы, разбурана эканоміка, абрабаваны народ, распаўсюдзіліся карупцыя, беззаконьне і прававы "беспредел".

11 красавіка ў 9.25 беларускага часу 19 дэпутатаў Апазіцыі ад Народнага Фронту, якія вычарпалі ўсе парламанцкія магчымасьці барацьбы з сістэматычным беззаконьнем дэпутацкай большасьці і прэзідэнта, аб'явілі палітычную галадоўку пратэсту ў зале парламанта. Дэпутаты, якія аб'явілі палітычную галадоўку, патрабавалі ад прэзідэнта і Вярхоўнага Савета спыніць парушэньні Канстытуцыі і законаў краіны, ліквідаваць цэнзуру, узнавіць свабоду слова, друку і інфармацыі, перадаць суду афіцыйных асоб, замешаных у карупцыі, вярнуць людзям ашчадныя ўклады, абясцэненыя ў выніку інфляцыі.

Ноччу з 11 на 12 красавіка пад прыкрыцьцём таго, што быццам бы замінаваны будынак, у залу Вярхоўнага Савета была ўведзена міліцыя і вайсковыя сапёры, нібы для размінаваньня. Галадаючым дэпутатам прапанавалі пакінуць памяшканьне. Дэпутаты адмовіліся. Тады агляд залы быў зьдзейсьнены сапёрамі ў прысутнасьці дэпутатаў. Міны не знайшлі, аб чым склалі акт, на якім распісаліся і дэпутаты.

Галадаючыя засталіся ў зале. У 2.50 на іх быў зьдзейсьнены збройны напад. У залу парламанта ўварваліся вайскоўцы колькасьцю каля 200 чалавек, узброеныя аўтаматамі і гумовымі дубінкамі. Большая частка ўварваўшыхся была ў вайсковай (зялёнай) камуфляжнай форме, у бронекамізэльках, у касках і ў масках, што закрывалі іх твары. Другая частка была ў чорным адзеньні і ў чорных масках (тыпу "панчоха"). Вайскоўцы накінуліся на галадаючых дэпутатаў, пачалі іх біць, вывалакваць з будынку парламанту. Зьбітых да крыві дэпутатаў кідалі з размаху ў "варанкі" (пры тым, быў аддадзены загад, каб абавязкова кідаць галавой уперад) і вывозілі ў розныя месцы Менску.

Частка дэпутатаў тут жа ноччу зьвярнулася ў Пракуратуру. Узбуджана ўгалоўная справа па факту зьбіцьця.

Раніцай сесія Вярхоўнага Савета не адбылася. Зала паседжаньняў парламанта была занята вайскоўцамі. Зноў, быццам бы, шукалі міну. У 12.00 Вярхоўнаму Савету дазволілі працягваць сесію, але дэпутатаў Апазіцыі, паводле загада прэзідэнта, міліцыя імкнулася не пускаць у залу. Прабіліся сілай.

У зале пракамуністычная большасьць, адчуваючы "пах крыві", выкрыкамі падтрымала бойку ў парламаньце. Апазіцыя пакінула залу, зрабіўшы заяву, што парламант, у які былі ўведзены ўзброеныя войскі і парушаны правы дэпутатаў, ужо не парламант.

Раніцай 12 красавіка ў Менску сьпецыяльныя аддзелы міліцыі разганялі і білі людзей, якія пратэставалі супраць гвалту. Пры гэтым, міліцыя, ведаючы, што прэзідэнт ня церпіць беларускі сьцяг, рвала дзяржаўныя сьцягі Беларусі.

Назаўтра, 13 красавіка, Вярхоўны Савет пад ціскам, зноў груба парушыўшы закон, прагаласаваў наноў за рэферэндум і прыняў усё, хаця тры фармуліроўкі рэферэндума былі прагаласаваны раней і не прыняты; ратыфікаваў дагавор і пагадненьні з Расеяй, якія ставяць крыж на беларускім суверэнітэце (дарэчы, межы з Летувой, Латвіяй, Польшчай будуць ужо ахоўваць расейскія памежнікі), і зацьвердзіў новае дзяржаўнае сьвята - Дзень кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, 7 лістапада.

Наша ацэнка. Ноччу з 11 на 12 красавіка ў Менску адбыўся ўзброены пракамуністычны прэзідэнцкі путч. Гвалтам адхілены апазіцыйныя дэпутаты Вярхоўнага Савета, праз парламант праведзены рашэньні, супярэчныя нацыянальным інтарэсам Беларусі. Прэзідэнцкая група сканцэнтравала ў сваіх руках усю ўладу ў дзяржаве.

З 12 красавіка краінай пачала кіраваць прэзідэнцкая хунта, якая складаецца з карумпаваных асоб, вайскоўцаў і супрацоўнікаў расейскіх разьведслужбаў, аб'яднаных уладаю, матэрыяльнымі інтарэсамі і нянавісьцю да беларускай нацыі, яе культуры, сымболяў, мовы. Хунта арыентавана на імперскую палітыку Масквы і імперскія палітычныя колы Расеі, якія прагнуць узнавіць у Беларусі камуністычны плацдарм і пачаць рэстаўрацыйны карычнева-камуністычны "паход" за ўзнаўленьне сацыялістачнага выбару і СССР на ўзроўні імперыялістычнай Расеі.

Мы інфармуем аб гэтым грамадзкасьць і зьвяртаемся да парламантаў і парламантарыяў краін Эўропы з заклікам узьняць свой голас, выказаць сваё меркаваньне. Бо на Беларусь насоўваецца чырвона-карычневая ноч. Ідзе чырвона-карычневы фашызм з Усходу. Сваю сутнасьць ён паказаў ужо 12 красавіка 1995 года. Цяпер можна з упэўненасьцю сказаць, што ў траўні 1995 года ў Беларусі ня будзе дэмакратычных выбараў. Але цалкам рэальна - тут зробяць яшчэ адну "гарачую кропку" Эўропы.

**Менск, 15 красавіка 1995 г.**

**Зянон ПАЗЬНЯК,**
**старшыня Апазіцыі БНФ.**

## ГАЛАСУЙЦЕ ЗА КАНДЫДАТАЎ НАРОДНАГА ФРОНТУ!

# ГЭТЫМ РАЗАМ ПАМЫЛІЦЦА НЕЛЬГА

Многія людзі перасталі верыць, што нешта можа зьмяніцца да лепшага. Паверылі Лукашэнку, прагаласавалі за "народнага заступніка", але жыць стала яшчэ горш.

Народны Фронт імкнуўся памагчы прэзідэнту. Грамадзкі (ценявы) урад Народнага Фронту, куды ўваходзяць выдатныя вучоныя-эканамісты, даўно распрацаваў праграму вываду эканомікі Беларусі з крызісу. Але А.Лукашэнка не захацеў супрацоўнічаць з вучонымі і выканаць антыкрызісную праграму. У выніку растуць цэны, народ бяднее, а старая і "новая" наменклатура багацее за народны кошт.

А.Лукашэнка абяцаў пакараць карупцыянераў. Дэпутат Апазіцыі БНФ Сяргей Антончык, каб дапамагчы А.Лукашэнку, назваў найбольш значныя выпадкі карупцыі высокапастаўленых асобаў, у тым ліку і ў акружэньні прэзідэнта. Але замест таго, каб падзякаваць С.Антончыку і па закону пакараць карупцыянераў, прэзідэнцкая ўлада забараніла публікацыю даклада Антончыка, і газэты выйшлі з белымі плямамі на яго месцы.

А.Лукашэнка перад выбарамі абяцаў паставіць новых, сумленных кіраўнікоў. Але пасьля выбараў ён запрасіў не акадэміка Гарэцкага ці доктара эканамічных навук Тарасава з грамадзкага ўраду Народнага Фронта, а Мясьнікoвіча (які быў віцэ-прэм'ерам у Кебіча), Лінга (які быў міністрам эканомікі ў Кебіча). У сваю "вертыкаль" прэзідэнт таксама прызначыў ранейшае начальства.

Народны Фронт прапаноўвае спосабы павышэньня ўзроўню жыцця народу, а прэзідэнт, каб адцягнуць увагу людзей ад надзённых праблемаў, навязвае непатрэбныя спрэчкі пра сьцяг, герб і мову. Народны Фронт прапануе рабіць рэформы на ўзор Чэхіі ці Эстоніі, дзе сярэдні заробак перасягнуў 150 даляраў - а прэзідэнт едзе "пераймаць вопыт" ва Узбекістан. Народны Фронт выступае за ўмацаваньне беларускай дзяржаўнасьці і нейтралітэту - а прэзідэнт падпісвае кабальныя эканамічныя і ваенныя дагаворы з Расеяй, абавязуецца разьмясьціць на нашай тэрыторыі новыя расейскія ваенныя базы.

Многім ужо зразумела: выйшла памылка. **Лукашэнка - гэта тое самае, што Кебіч**, толькі маладзейшы. Выправіць памылку даюць магчымасьць выбары ў новы Вярхоўны Савет.

Давайце зробім так, каб у Вярхоўны Савет не праскочылі наменклатурчыкі, прайдзісьветы, пустыя гаваруны. **Давайце абяром сумленных і адукаваных людзей, якія маюць цьвёрдыя перакананьні і здольныя працаваць "камандай". Іх лёгка пазнаць: гэта кандыдаты Беларускага Народнага Фронту.**

Яны зробяць Вярхоўны Савет сапраўдным органам народаўладдзя, які возьме на сябе ініцыятыву вываду краіны з крызісу, і вымусяць прэзідэнта паважаць свой народ і дзяржаву.

### Беларускі Народны Фронт: надзейнасьць, сумленнасьць, прафесіяналізм

### ШТО ЗРОБІЦЬ НАРОДНЫ ФРОНТ ПАСЬЛЯ ПЕРАМОГІ НА ВЫБАРАХ?

**1. Народны Фронт пачне рэформы ў інтарэсах народу.**

Будуць уведзеныя **стабільныя беларускія грошы.** Гэта спыніць рост цэнаў, запоўніць прылаўкі якасным таварам, дасьць людзям упэўненасьць у заўтрашнім дні.

Рэзка **зьнізяцца падаткі**, асабліва для вытворцаў. Гэта дазволіць падвысіць заработную плату і зьнізіць цэны.

Адначасова будзе ўведзены **прагрэсіўны падатак на нерухомасьць.** Уладальнікі палацаў будуць плаціць падатак, які пойдзе ў фонды сацыяльнай дапамогі пенсіянерам і дзецям.

**Пенсіянерам будзе забясьпечана спакойная старасьць.** Вялікая частка дзяржаўнай маёмасьці і грошы ад яе продажу ці арэнды пойдуць у распараджэньне пенсійнага фонду.

**Будуць адменены прывілеі.** Адбудзецца індэксацыя беспрацэнтных альбо нізкапрацэнтных крэдытаў, якія наменклатура брала пад будаўніцтва асабнякоў. Гэтыя грошы пойдуць на стабілізацыю эканомікі і на сацыяльныя праграмы.

**Уклады ў ашчадных банках**, якія "зьела" інфляцыя, часткова **кампенсуюцца** дзяржаўнай маёмасьцю або за кошт яе продажу.

**Сёньняшняя чэкавая прыватызацыя - гэта падман народу.** Пад яе аддадзены толькі два працэнты дзяржаўнай уласнасьці Рэспублікі. Астатнія 98% уласнасьці "прыхватызуюць" наменклатура, дырэктарат і расейскія манаполіі. Народны Фронт раіць: не сьпяшайцеся прадаваць свае чэкі за бясцэнак. **Калі Народны Фронт пераможа на выбарах 14 мая**, пад прыватызацыю пойдзе больш за палову дзяржаўнай маёмасьці, а значыць, **кожны чэк стане даражэйшы ў шмат разоў.** І гэта будзе сапраўды народная прыватызацыя.

**Для аднаўленьня гаспадаркі будуць прынятыя новыя законы, праекты якіх ужо распрацаваў грамадзкі (ценявы) урад Народнага Фронту:**

**- Новы закон аб зямлі** спросьціць яе перадачу тым, хто хоча працаваць на ёй, і гарантуе ўласнасьць на зямлю. Цяпер чалавек усё жыцьцё працуе на зямлі, а выйшаўшы на пенсію, аказваецца ні з чым. Мы прапануем, каб кожны калгасьнік па жаданьню мог атрымаць свой надзел зямлі, а калгасная маёмасьць была акцыянаваная паміж усімі калгасьнікамі. Тады селянін і на пенсіі будзе заможна жыць, здаўшы сваю зямлю, напрыклад, у арэнду. Усе, хто хоча па-ранейшаму жыць калгасам, стануць яго паўнапраўнымі пайшчыкамі.

- Будзе створаны рынак нерухомасьці, а **новы закон аб інвестыцыях** прывабіць у Беларусь салідныя замежныя фірмы. Дзякуючы гэтаму, мы здабудзем сучасныя тэхналогіі, абновім вытворчасьць, створым новыя месцы працы для нашых людзей, якія будуць зарабляць нармальныя грошы.

**- Новы закон аб уласнасьці**, паводле якога ўся ўласнасьць павінна мець свайго канкрэтнага гаспадара. Маёмасьць без гаспадара - гэта сродак незаконнай нажывы і падстава для карупцыі.

**- Новы закон аб нетрах**, які дазволіць навесьці парадак у выкарыстаньні багатых запасаў карысных выкапняў Беларусі і спыніць іх рабаваньне.

Але галоўнае багацьце нашай краіны - гэта людзі, іхнія ўменьні, розум і працавітасьць. Будзе захаваны высокі ўзровень беларускай навукі і створаныя належныя ўмовы для людзей высокакваліфікаванай працы.

Беларусь спаўна выкарыстае сваё выгаднае геаграфічнае становішча ў цэнтры Эўропы і будзе атрымліваць плату за трубаправодныя, чыгуначныя, паветраныя і іншыя транзітныя перавозкі. Гэтую плату бяруць і Украіна, і Летува, і Польшча. Калі б наша краіна брала за транзіт грошы ці сваю долю нафты, гэтага б хапіла, каб цалкам забясьпечыць Беларусь нафтаю.

Будзе ажыцьцёўлены праект Балтыйска-Чарнаморскага нафтавага калектара, які дазволіць Беларусі купляць нафту там, дзе яна дзешавейшая. Мы ня будзем залежыць ад спаду здабычы нафты ў Расеі і ад нечаканасьцяў у палітыцы яе кіраўніцтва.

Будзе ўзяты курс на эканамічную інтэграцыю Беларусі з іншымі дзяржавамі Усходняй і Цэнтральнай Эўропы, а ў перспектыве - на ўваходжаньне Беларусі ў агульнаэўрапейскія эканамічныя структуры.

**2. Народны Фронт не дапусьціць, каб Беларусь зацягнулі ў чужыя войны.**

Мы хочам, каб беларускія хлопцы ніколі не пралівалі крою на чужой зямлі і за чужыя інтарэсы. Ніколі не павінна быць вайны і на беларускай зямлі. Беларусь павінна быць нейтральнай, і таму з нашай зямлі будуць выведзены ўсе замежныя ваенныя базы і замежныя войскі.

Дзяржава будзе траціць менш грошай на абаронныя патрэбы. Абарону краіны будзе забясьпечваць нешматлікае прафесійнае войска. Зьберажоныя грошы пойдуць у пенсійны фонд.

Народны Фронт будзе адстойваць інтарэсы беларускай дзяржавы на міжна-роднай арэне. Ён даможацца міжнародных гарантыяў для нейтралітэту Беларусі, для рэжыму спрыяньня ў гандлі і эканамічным разьвіцьці.

Наша краіна будзе цьвёрда трымацца нормаў міжнароднага права, адстойваць правы чалавека і мір у рэгіёне.

**3. Народны Фронт наблізіць уладу да народу.**

Будзе ўведзеная сістэма мясцовага самакіраваньня, зручная і бліжэйшая да людзей. "Прэзідэнцкай вертыкалі" - прытулку для былой партыйнай наменклатуры - ня будзе. Мясцовых кіраўнікоў будзе выбіраць сам народ.

У рэспубліканскім бюджэце будзе канцэнтравацца ня больш за трэць агульнадзяржаўнага бюджэту. Большая частка бюджэтных сродкаў ( у тым ліку з зямельнага падатку) застанецца ў мясцовых бюджэтах і пойдзе на штодзённыя людзкія патрэбы.

Вобласьці, як лішняе зьвяно адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу, будуць скасаваныя. Зэканомленыя сродкі пойдуць у мясцовыя бюджэты.

**4. Дзяржава пачне служыць грамадзянам.**

Будзе спынена наменклатурная "прыхватызацыя". Усё, што наменклатура нарабавала ў дзяржавы, будзе вернута праз суд. Адбудзецца расьследаваньне фактаў, якія пералічыў дэпутат Антончык, і вінаватыя будуць пакараныя.

Будзе прыняты новы антыкарупцыйны закон аб дзяржаўнай службе з абавязковым дэклараваньнем даходаў для дзяржаўных службоўцаў.

Для грамадзян краін, якія вядуць вайну, будзе ўведзены візавы рэжым і асаблівыя правілы ўезду ў Беларусь. Дзяржаўныя межы Беларусі будуць адкрыты для гандлю, для сямейных сувязяў, для культуры, але закрытыя для злачынцаў.

Медыцынскае абслугоўваньне застанецца бясплатным. Будзе ўкараняцца сістэма страхавой медыцыны, што дазволіць падвысіць якасьць медыцынскіх паслугаў. Капіталаўкладаньні ў медыцыну і ў выраб медыкаментаў будуць на 10 гадоў вызвалены ад падаткаў.

Народны Фронт лічыць найважнейшым дзяржаўным клопатам прэстыж і дабрабыт сям'і. Сем'і будуць атрымліваць праграэсіўныя датацыі на дзяцей, а час на выхаваньне дзяцей будзе залічвацца ў працоўны стаж жанчын. Маладыя сем'і будуць атрымліваць ільготныя жыльлёвыя крэдыты.

Грошы з чарнобыльскага падатку будуць накіраваныя на дапамогу непасрэдна пацярпелым людзям. Будуць прыцягнуты да адказнасьці чыноўнікі, якія выкарысталі "чарнобыльскія" грошы ў асабістых інтарэсах.

Выдаткі на адукацыю і культуру - гэта грошы, укладзеныя ў будучыню нацыі. Будзе створана сучасная нацыянальная сістэма адукацыі, якая дазволіць нашай моладзі атрымліваць веды і ўмельствы на ўзроўні сусьветных стандартаў.

Захаваньне і разьвіцьцё духоўных і культурных каштоўнасьцяў нашага народу будзе прадметам асаблівага дзяржаўнага клопату. Беларусь будзе краінаю паразуменьня ўсіх традыцыйных для нашай зямлі веравызнаньняў.

Беларуская дзяржава будзе абараняць інтарэсы ўсіх грамадзян краіны, незалежна ад іх нацыянальнасьці, веры ці палітычных поглядаў.

### РАЗАМ МЫ АДБУДУЕМ НАШ БЕЛАРУСКІ ДОМ!

# АПОШНЯЯ СТАРОНКА

## КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА

**ЗЛАЧЫННАСЬЦЬ МАЛАДЗЕЕ**

З жалем даводзіцца канстатаваць, што ўзрост злачынцаў мае ўстойлівую тэндэнцыю да зьніжэньня.

Так, крадзёж 80 долараў ЗША з хаты жыхара Скідаля зьдзейсьніла вучаніца шостага класа мясцовай школы.

Разбойны напад на кватэру па вуліцы Дзяржынскага ў Горадні таксама на сумленьні непаўнагадовых. Нападаўшыя (навучэнец ПТВ, дзесяціклясьнік і васьміклясьнік) дзейнічалі ў масках. Уварваўшыся ў кватэру, яны пабілі гаспадара, забралі відэаапаратуру, грошы.

**ПА АДЗЕНЬНЮ СУСТРАКАЮЦЬ**

У скураных куртках цяпер хадзіць прэстыжна. Але іх маюць далёка ня ўсе. Таму...

З гардэроба медыцынскага вучылішча ў мястэчку Жалудок Шчучынскага раёна скрадзена скураная куртка, якая належыла навучэнцы.

У Лідзе скураная куртка скрадзена з хаты вайскоўца. У Палацы хімікаў у Горадні скрадзена куртка, якая належыла выкладчыку танцаў.

**НЕБЯСЬПЕЧНЫЯ ПРАФЕСІІ**

Падобна на тое, што небясьпечнай прафесіі ў нас папросту не існуе. Ля вёскі Саволеўка Гарадзенскага раёна двое раней асуджаных ударылі па галаве бутэлькай прыватнага таксіста, які падвозіў іх. Вадзіцеля выратавала тое, што супраць нападаўшых своечасова прымяніў газавы пісталет.

У дадзеным выпадку пацярпела жанчына - кантралёр тралейбуснага ўпраўленьня. Жыхар Горадні Ф., які знаходзіўся ў нецьвярозым стане ў тралейбусе першага маршрута, ударыў жанчыну кулаком у твар. Хуліган затрыманы.

**І СЬМЕЦЬЦЕ КРАДУЦЬ**

Незвычайны крадзёж зафіксаваны ў гарадзкім пасёлку Сьвіслач. У начны час з ахоўваемай тэрыторыі дзіцячага садка невядомымі скрадзены ... кантэйнер са сьмецьцем. Спадзяваліся ў ім штосьці знайсьці.

**ПАВЕСЯЛІЛІСЯ**

На немалую суму "пакаралі" дзьве прыгажуні пражываючых у гатэлі "Нёман" у Горадні жыхароў Сьвярдлоўскай вобласьці і Алма-Аты.

Пасьля сумеснага расьпіцьця сьпіртных напояў адзін з аматараў выпадковых знаёмстваў не далічыўся 3200 долараў ЗША і дзьвюх тысяч казахскіх тэньге, другі - 2950 долараў і 150 тысяч расейскіх рублёў.

**СЯМЕЙНЫ ПАДРАД**

У начны час дзьве сямейныя пары з Горадні, нідзе не працуючыя, спрабавалі скрасьці са склепу хаты ў вёсцы Забагонішкі Гарадзенскага раёна дзесяць мяхоў бульбы. На гэты раз "сямейны падрад" не спрацаваў - злодзеі затрыманы на месцы злачынства супрацоўнікамі міліцыі.

**СУМЯШЧЭНЬНЕ ПРАФЕСІЙ**

За крадзёж аўтамагнітолы з аўтамашыны "Масквіч", якая стаяла на тэрыторыі Гарадзенскага тралейбуснага ўпраўленьня, затрыманы вартаўнік гэтай арганізацыі. Свае абавязкі Н. пасьпяхова сумяшчаў з патрашэньнем чужых машын.

**УЗБРОЙВАЕМСЯ**

Пакуль законапаслухмяныя людзі чакаюць прыняцьця Закона аб зброі, асобныя грамадзяне, часьцей раней асуджаныя, гэтую праблему для сябе ўжо вырашылі станоўча.

Пры даглядзе ў Горадні машыны "Вольва" работнікамі міліцыі ў аднаго пасажыра, раней асуджанага К., знойдзены і канфіскаваны рэвальвер сістэмы "Наган" з чатырма патронамі да яго.

**ПАКРЫЎДЗІЛІ ЛІВІЙЦА**

З пакоя студэнта першага курса Гарадзенскаага медыцынскага інстытута, жыхара Лівіі, скралі імпартны відэамагнітафон і дзесяць відэакасет. Зламысьнікі папросту выламалі дзьверы пакоя, дзе жыў іншаземец.

**СУПРАЦІЎЛЕНЬНЕ МІЛІЦЫІ**

Жыхар Гарадзенскага раёна К., знаходзячыся нападпітку, аказаў супраціўленьне, ударыўшы міліцыянта Гарадзенскага райаддзела І.Ігнатовіча, які выконваў службовыя абавязкі. Вырашаецца пытаньне аб узбуджэньні крымінальнай справы.

**А.ІВАНОЎ.**

## СПОРТ

### ДОМА І СЬЦЕНЫ ДАПАМАГАЮЦЬ

На менскім стадыёне "Дынама" алімпійская зборная Беларусі ў межах групавога алімпійскага адборачнага турніра прымала алімпійскую зборную Мальты.

На жаль, у складзе нашай зборнай адсутнічалі з-за траўмаў і хвароб асноўныя гульцы Штанюк, Хацкевіч, Лабанаў, Чайка, Астроўскі, Афанасенка, Пуціла. Аднак навічкі, якіх тэрмінова выклікаў у каманду галоўны трэнер алімпійцааў Іван Савосьцікаў, не падвялі. Наша зборная перамагла з буйным лікам 4:0. Сенсацыйна тое, што ўсе галы для Беларусі здабылі дэбютанты А.Любчук, В.Скрыпчанка, А.Лаўрык і У.Макоўскі.

Наступныя дзьве гульні супраць алімпійскіх зборных Галандыі і Нарвегіі нашы правядуць у траўні.

**Г.А.**

### БРОНЗАВЫ ДЭБЮТ

Беларуская бягуньня Мадзіна Бактагірава заваявала бронзавы медаль ў марафоне, які прайшоў у амерыканскім горадзе Бостан.

Цікава, але для Мадзіны гэты марафон, у якім прынялі ўдзел звыш дзесяці тысяч бегуноў быў першым вялікім дэбютам.

**СІМ**

### СНАРАДЫ НА ТАВАРНА-СЫРАВІННАЙ БАЗЕ

Падчас правядзеньня зямельных работ на таварна-сыравіннай базе ВА "Палімір" будаўнікі знайшлі 18 нямецкіх снарадаў. Прыбыўшыя на месца знаходкі сапёры абясшкодзілі "клад".

### НЯМА ГРОШАЙ - НЯМА ПАЛІВА

19 красавіка з 15 гадзін з 24 аўтобусных маршрутаў Гомеля працавалі толькі два. Дырэктар аўтобуснага парку N 6, які абслугоўвае абласны цэнтр, Віктар Булацкі адхіліў версію мясцовых сродкаў інфармацыі аб забастоўцы. Па яго словах, у гэты дзень аўтобусны парк вычарпаў усе свае запасы паліва і ўсе магчымасьці гарадзкога бюджэта ў фінансавай дапамозе.

У гэты ж дзень абласное кіраўніцтва выдзяліла аўтапарку грошы.



**СЯБРОЎКІ**

**Фатаграфаваў І.БАРЫСАЎ.**

### 13 - ГЭТА РЭКОРД

Трынаццаць чалавек на мінулым тыдні скончылі жыцьцё самагубствам на Магілёўшчыне. Сярод самагубцаў ёсьць і маладыя людзі, і пеньсіянеры, і інваліды, і беспрацоўныя. Трынаццаць самагубстваў - гэта рэкорд вобласьці.

### ПЕДАГОГІ БЕРАСЬЦЯ ПРАТЭСТУЮЦЬ

Педагагічны калектыў СШ N 20 г.Берасьця зьвярнуўся з заклікам да ўсёй педагагічнай грамадзкасьці горада распачаць акцыю праатэсту супраць прынятага кабінетам міністраў распараджэньня ад 28 сакавіка 1995 года аб спыненьні выплат прэмій настаўнікам.

Акцыя была падтрымана навучальнымі ўстановамі. У шэрагу школ і вучэльняў Берасьця прайшлі мітынгі пратэсту.

### УДАРНІКАМ - ТЫСЯЧА, ЗВЫЧАЙНЫМ - ТРЫСТА

На Гарэцкім акцыянерным таварыстве "Прэма" (былы машынабудаўнічы завод) адміністрацыя з-за адсутнасьці сродкаў вымушана выплочваць месячны заробак супрацоўнікам завода кансервовымі накрыўкамі. Ударнікам трапіла па тысячы накрывак, астатнім - па трыста.

### І ДВА ВЫПАДКІ З ЛЯТАЛЬНЫМ ЗЫХОДАМ

У Беларусі за мінулы год было зарэгістравана 230 выпадкаў захворваньняў дыфтэрыяй, а за першы квартал бягучага года - іх ужо 200. А вось для параўнаньня лічбы толькі па Берасьцейшчыне: за 1994 год - 16 выпадкаў, за першы квартал леташняга года - ужо 15. Два выпадкі - з лятальным зыходам.

### ХАРЧАВАНЬНЕ ЗА КОШТ ЛЕКАРАЎ

Урачы Асіповіцкага раённага шпіталю пацьвердзілі сваю клятву Гіпакрата. Калі былі вычарпаны сродкі на харчаваньне хворых, лекары аддалі на харчаваньне хворых грошы з фонду заробкавай платы.

### ПАТРЫЯРХ ЗАТРЫМЛІВАЕЦЦА

Па зьвестках з мясцовых эпархіяльных крыніц, плануючыйся на красавік прыезд у Берасьце Патрыярха ўсяе Русі Аляксея II для асьвяшчэньня першай чаргі будуючагася Сьвята - Уваскрасенскага храма перанесены на 25 ліпеня 1995 года.

### МЯЖА НА ЗАПОРЫ

12 красавіка супрацоўнікі Ашмянскага РАУС ва ўзаемадзеяньні з разьведаддзелам памежнага атрада затрымалі 12 грамадзян Шры-Ланкі, Бангладэш і Індыі, якія без адпаведных дакумантаў спрабавалі нелегальна выехаць у Польшчу. Парушальнікаў адправяць у Смаргонскую памежную камендатуру для правядзеньня разьбіральніцтва.

Гэтым жа днём памежнікі Берасьця затрымалі двух грамадзян Беларусі, якія спрабавалі перасекчы мяжу па фальшывых дакумантах.

### МЕДЫКІ ВІЦЕБСКА ЖАДАЮЦЬ 80-120 ДОЛАРАЎ НА МЕСЯЦ

З 12 красавіка прафсаюзны камітэт паліклінікі віцебскага вытворчага аб'яднаньня "Кераміка" абвясьціў перадзабастовачнае становішча. Медыкаў не задавальняе месячны заробак, які яны атрымліваюць з затрымкай. Прафсаюзны камітэт вырашыў зьвярнуцца ў Кабінет Міністраў з патрабаваньнем павялічыць заробак да 80-120 долараў на месяц.

**СІМ**

### ПАКУЛЬ УРАД ДУМАЕ, ТО Ў ПОРЦЕ МОЖА НЕ ЗАСТАЦЦА РАБОЧЫХ

Распачалася навігацыя ў гарадзенскім рачным порце. На жаль, рачнікі пакуль што выконваюць дробныя заказы.

Начальнік порта спадар Валеры Капітанаў на запыт карэспандэнта "Пагоні" адказаў так: "Зараз, па вялікай вадзе, мы дапамаглі мастабудаўнікам, што ўзводзяць мост бліз вёскі Орля, перавезлі на баржах негабарытны груз. Таксама зрабілі першыя спробы распрацоўкі пескагравійнага кар'еру Манькаўцы. Ёсьць і персьпектывы - вазіць грузы ВА "Азот" і "Сінтвалакно" з Горадні ў порты балтыйскага мора. Засталося дачакацца, калі на ўзроўні ўраду будзе падпісана пагадненьне аб збудаваньні на Ковенскай ГРЭС шлюза".

А пакуль урад марудзіць, ад былога працоўнага калектыву порта засталося ўсяго 70 чалавек.

**Г.А.**

*ПРАЦЯГВАЕЦЦА ПАДПІСКА*
*на трэці квартал 1995 г.*

**Падпісны кошт на "Пагоню" складае:**
**III мес. - 9 000 рублёў;**
**II мес. - 6 000 рублёў;**
**I мес. - 3 000 рублёў.**

У наш складаны час не заўжды можна купіць газету ў кіёску, таму падпіска - гэта гарантыя атрыманьня "Пагоні" своечасова без затрымак!

### ГАРАДЗЕНЦЫ ЗА ПРЫВАТЫЗАЦЫЮ

Гарадзенская філія Міжнароднай фінансавай карпарацыі (МФК) правяла сацыялагічныя апытаньні жыхароў горада з мэтай вывучэньня іх адносінаў да малой прыватызацыі ў горадзе.

Апытаньне праводзілася ў тых установах, крамах, цырульнях, якія былі прададзены на аўкцыёнах і ўжо дзейнічаюць.

У апытаньні ўзялі ўдзел 348 чалавек. 61% апытаных адобрылі прыватызацыю, 20,9% - выказаліся супраць, незмаглі даць дакладны адказ 18,1%.

**Г.Б.**





**"ПАГОНЯ"**
Рэдактар М.МАРКЕВІЧ.
Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд "БАЦЬКАЎШЧЫНА".
Адрас рэдакцыі: 230023, г.Горадня, вул.Дамініканская, 1.
Тэлефоны: 45-29-96, 45-41-83.
Газета выдаецца па пятніцах 4 разы на месяц.
Пры перадруку спасылка абавязкова.
Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест разьмешчанай у газеце рэкламы.
Індэкс 63124.
Фотанабор, афсетны друк.
Гарадзенская абласная ўзбуйненая друкарня: 230003, г.Горадня, вул.Паліграфістаў,4.
Заказ 1571.
Наклад 10944 паасобнікі.
Нумар падпісаны да друку 27.04.95, у 16.00